# НАПАГАТОВЕ

ЧАСАПІС БЕЛАРУСКІХ СКАУТАЎ.

№ 1. Лістапад 1948 г. № 1.

## ПРАЦА -- НАША ПЕРШАЯ І АДЗІНАЯ МЭТА.

Прыступаючы да выданьня нашага часапісу і дбаючы пра дабро і салідарнасьць нашых скаўцкіх адзінак, укладаем нашу мэту ў назоў "Н а п а г а т о в е". Нашу мэту і нашу ідэю адначасна жадаем зрэалізаваць усе разам, супольнымі сіламі, у супольнай працы скаўцкага згуртаваньня. Жадаем зрэалізаваць яе далёкія ад якой-небудзь палітыкі ці дыплёматычных лавіраваньняў. Жадаем зрэалізаваць не як працу цэласьці ў цяперашніх цяжкіх абставінах, а таксама ў яшчэ цяжэйшых заўтрашніх.

Калі спакойна і з увагай прыглядзімся да сёнешняга часу, заўважым, што вельмі цяжкай справай будзе павязаць у працы элементы традыцый і новага. Гэта тым болей, што пагадзжэньне гэтых элементаў на сьвеце выступае ў так туманнай і неакрэсьленай форме, у якой ня шмат хто з сучасных людзей можа яго адчуць, ці нават хоць-бы адгадаць. Сёньня-ж у нашых часох лёгка ўзыйсьці на дарогу падатлівага, хаця-б нават і задуранага, апартунізму, або на дарогу, на каторай сьпяваюцца старыя песьні мінулага, няўдале зачэпваючы даапошняга нацягнутыя струны, або нават на дарогу дэмагагічнага галасу.

Аднак, адно застаецца важным. Чалавек добрасумленны, спакойны і з сумленным пачуцьцём /можа хоць найчасьцей шэры і просты/ дысапануе нават у найболей пераломных хвілінах поўнымі і акрэсьленымі паказьнікамі і нутранымі загадамі, якія ёсьць яго прыроднай уласьцівасьцяй. Існуюць яны ў нас выразна, як нешта незапярэчнае, учора, сёньня і заўтра ў канкрэтным выглядзе. Першы з іх -- гэта наша беларуская культура, зьвязаная з хрысьціянскай рэлігіяй, якая загадвае нам палюдзку адносіцца адзін да другога, з поўнай этыкай і маральнасьцяй. Другі з іх -- гэта наша глыбокае пераконаньне, што шматлікасьць ахвяраў, панесеных нашым народам у барацьбе за волю нашай Бацькаўшчыны, трагічныя абставіны беларускага народу, вымагаюць падкрэсьліць вартасьці нашага жыцьця, якое дзякуючы Усявышняму было ўратавана.

З гэтых пунктаў гледжаньня палітычныя праграмы будуць выдавацца нам заўсёды малымі, а калі не малымі, дык меней важнымі, а можа шмат каму і няісную чымі. Праграмы ніколі ня могуць дыктаваць дарозе культуры, таму, што яны зьяўляюцца толькі поўнай эмоцыяй яе, культура-ж заўсёды ёсьць паказчыкам духовых імкненьняў і духовай працы чалавецтва. Інакш натуральныя правы яе разьвіцьця сыходзяць із свайго ўласьцівага ёй шляху.

На гэтых тэзісах будзем апіраць свае імкненьні, сваю працу і вынікі. Нашым клічам ёсьць -- п р а ц а. Праца сумленная і трывалая, для ўсіх і праз усіх. Калі нехта болей ведае і болей можа, няхай аддасьць другому частку сваіх ведаў ці сваёй працы, а другі няхай ацэніць гэта, прымае і няхай карыстаецца для свайго дабра і для дабра іншых.

Жадаем стварыць агульны фронт думкі; не ў разуменьні таго, каб сарваць з тым, што было, але ў сэнсе павароту да рэальнага жыцьця, якое колькігадовы прымітывізм тут на эміграцыі прыціснуў каменем нядолі ды няшчасьця. Жадаем зацеміць пры гэтым, што часапіс наш мае паслужыць пасярэднікам узаемнага паразуменьня, а таксама абмену думак,

які нас вельмі цікавіць і наогул нашае аб'яднаньне. Жадаем, каб усе забіралі голас на старонках нашага часапісу, ствараючы гэтым падваліны ўзаемнага паразуменьня, урухамляючы ў гэты спосаб усе актыўнейшыя сілы на абшары скаўтынгу для дабра і карысьці цэлага нашага скаўцкага аб'яднаньня.

С. Быстраходны.

- - - - - - - - - -

## ДА ТРЭЦІХ УГОДКАЎ ПЕРШАГА СЬЦЯГУ З.Б.С.Ч.

Тры гады таму, 15.10.1945 г., заснаваўся Першы Сьцяг Беларускіх скаўтаў на чужыне. Гэты дзень увойдзе ў гісторыю нашага скаўтынгу ня толькі як выдатная дата самой арганізацыі, але і як значная падзея ў нашым грамадзкім жыцьці наогул. Сам факт заснаваньня Беларускага скаўтынгу на чужыне сьведчыць аб тым, што нашая моладзь зьяўляецца запарукай нашай будучыні, што яна ня адрадзіла нашых нацыянальных ~~ідэяй, а,~~ найпоўны на выяўленьне разам са старэйшым грамадзянствам, годна нясе наш сьцяг вызваленьня, паказвае сваю здольнасьць і падрыхтаванасьць да жыцьця нават у сапраўды цяжкіх умовах чужыны.

Пасьля ліквідацыі нашага скаўтынгу ў Польшчы, якая адбылася яшчэ задоўга да вайны, факт паўстаньня яго на эміграцыі, лішні раз даводзіць нязгаснасьць гэтай ідэі. Ад часу заснаваньня яго тут, Беларускі скаўтынг так ці інакш уваходзіць у міжнародную арганізацыю скаўтаў. Упяршыню Міжнародная Арганізацыя Скаўтаў даведалася, такім чынам, аб існаваньні беларускай самастойнай скаўцкай арганізацыі па-за межамі Бацькаўшчыны. Больш таго, Міжнародная Арганізацыя Скаўтаў выявіла вялікае зацікаўленьне да нашага, калі так сказаць, маладога яшчэ скаўтынгу, а яго спраўнасьць і падрыхтаванасьць знайшлі сабе прызнаньне сярод скаўтаў іншых нацыянальнасьцяў, нярэдка нашых суседзяў, няпрыхільна, а то і варожа, настаўленых да нас. Перамагаючы цяжкасьці, матэр'яльныя і іншыя, Беларускі скаўтынг здолеў узё-ж зарганізавацца і падаць свой голас у сьвеце.

Мы зусім ня хочам пераацэньваць нашыя дасягненьні /наадварот, заўсёды сьвядомыя сваіх недахопаў і памылак/, але хочацца сказаць, што ў сэнсе рэпрэзэнтацыі нашага народу перад чужынцамі, побач з агульнанацыянальнай рэпрэзэнтацыяй, наш скаўтынг мае свае заслугі. Тут гутарка ідзе, зразумела, ня толькі аб працы Першага Сьцягу ў Амэрыканскай зоне, але аб усім Беларускім скаўтынгу, уключаючы сюды беларускіх скаўтаў у Ангельскай зоне, асабліва такі важны асяродак як Ватэнштэт.

У сувязі з трэцяй гадавінай Беларускага Скаўтынгу на чужыне, цікава было-б крыху спыніцца на важнейшых эпізодах яго гісторыі. Але гэтыя эпізоды занялі-б многа месца, таму мы пададзім толькі адзін з іх.

Най~~важнейшай датай~~ у гісторыі нашага Сьцягу, пасьля першае сустрэчы з іншымі нацыянальнасьцямі, была сустрэча на ўкраінскім Джэмбары ў Мітэнвальдзе 4-7 ліпеня 1947 г. Прыехалі ў Мітэнвальд а гадзіне 11,30. Дождж льле, як з вядра, а трэба йсьці добрых 3 км. да Егерказэрнэ. Нашыя "Васількі" і "Рысі" ужо вымаклі так, што некаторыя выкручвалі вопратку. Але ўсе ведалі, што гэта ўсё глупства ў параўнаньні з заўтрашнім. Вось заўтра, дык сапраўды прыдзецца папрацаваць. Гэта-ж ня жарт -- будзе 12 тысяч скаўтаў. Сорам, калі мы зоймем апошняе месца. Нарэшце прыйшлі да Егерказэрнэ, але... лягер знаходзіцца ў 1/2 км. Зноў трэба iсьці, а дождж льле, а дождж льле. ... Дайшлі да лягеру, але... — тут сёньня начуюць толькі ўкраінцы. Нам зноў трэба iсьці ў Егерказэрнэ. А дождж дужэй і дужэй. Нарэшце з песьняй дайшлі да Егерказэрнэ і ўклаліся спаць недзе на "піддашшы".

Раніцай даведаліся, што тут ужо знаходзяцца нашыя скаўты з Ангельскае зоны. Сустрэліся. Знаёмімся з "ангельскаю зонаю". Яны дзівяцца, што гэта за такая "амэрыканская зона". Розьніца адразу сьціраецца, толькі на ўніформах можна пазнаць Вэтэнштэт і Міхельсдорф.

А гадзіне 10-ай адчыненьне Джэмбары, падняцьцё сьцягоў і малебен. А 2-ой гадз. нашыя "Васількі" і "Рысі" адстартавалі ў тэрэн. Мы хвалюемся больш, як яны. Яны-ж заховуваюцца ... вельмі добра. Да 6-ці гадз. -- вольны час. Ходзім між палатак, знаёмімся, мяняем за ўнгарскімі ды нямецкімі лілейкамі. Падвечар вярнуліся нашыя дружыны з паходу. Крыху стаміліся, але зараз-жа трэба ісьці на спартовыя змаганьні. У валейбол прайгралі толькі ўкраінцам. Цікава, якія-ж будуць вынікі.

Увечары вогнішча. Ну, тут ужо нашыя ватэнштатцы занялі кіруючае становішча. Дзяўчаты выканалі "Званок" так, што адусюль загрымела:"Слава беларусінам.", "Жыве.", "Біс.", "Віндерголен." і г.д. Наагул, мастацкая частка карысталася вялікім посьпехам. Пасьля вогнішча -- спаць.

7 ліпеня 1947 г. на зачыненьні Джэмбары абвяшчаюць вынікі спаборніцтваў. Беларусы занялі другое месца як у скаўцкіх, гэтак і ў спартовых змаганьнях, першае -- украінцы, трэцяе -- палякі, чацьвертае --літоўцы, далей -- мадзяры, немцы і г.д. Гэта была ўжо сапраўдная перамога. З ліку 12 тыс. скаўтаў наша група заняла другое месца. Хто быў скаўтам, той зразумее наш тагочасны настрой.

Нашы дзяўчаты, прабыўшы ў хлапцоўскім Сьцягу паўтара году, убачылі, што між хлапцоўскім скаўтынгам і дзявочым мае быць розьніца і што яны ўжо даволі моцныя, каб пачаць самастойную працу.

28 верасьня 1947 году адбылося ўрачыстае адлучэньне дзяўчат ад Першага Сьцягу і заснаваньне Другога дзявочага Сьцягу. У гэты дзень быў дадзены вельмі добры канцэрт сіламі адных дзяўчатаў. Зімовы час нашыя скаўты праводзілі за навукай, у пазнаньні ўсё новага і новага. За гэты перыяд яны ўзрасьлі як духова, так і фізычна і заслужылі назоў і гонар сапраўднага скаўта, які, куды-б яго ні кінуў лёс, даў-бы сабе рады, памог-бы тым, хто патрабуе дапамогі, здабыў-бы павагу сярод тых, з кім ён будзе жыць, годна рэпрэзэнтаваў-бы сябе і свой народ.

З надыходам вясны нашыя скаўты былі даволі добра падрыхтаваныя ўва ўсіх галінах скаўцкіх спраўнасьцяў і якасьцяў. У гэтым годзе нашых скаўтаў можна заўважыць амаль на ўсіх міжнародных сустрэчах скаўтаў розных нацыянальнасьцяў. Першым заслугоўвае на ўвагу Джэмбары, якое адбылося 25-31 сакавіка г.г. ў Гамбургу. Тут прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх ДП-скаўтаў, а таксама скаўтаў ангельскіх, амэрыканскіх і іншых. Гэта была першая сустрэча беларускіх скаўтаў з ангельскімі. Ангельцы цікавіліся нашым скаўтынгам, нашым народам, яго гісторыяй і г.д. Якраз тут наша моладзь годна рэпрэзэнтавала сябе, свой народ і Край.

Кожны год у Рэгенсбургу наладжваюцца спаборніцтвы, на якія зьбіраюцца скаўты ўсяе акругі. Так і ў гэтым годзе, у дзень Сьв. Юр'я -- скаўцкага патрона — былі арганізаваны змаганьні розных відаў: спартовых і чыста скаўцкіх і г.д. Як і заўсёды -- мы наперадзе. Наагул, ў гэтым годзе пляналіся шматлікія летнія лягеры, зьлёты і г.д., але на ўсе гэтыя мерапрыемствы адмоўна ўплынулі грашовая рэформа ў Нямеччыне і карантын, накладзены амаль на ўсю Баварыю, у сувязі з дзіцячым паралюшам. Але, ня гледзячы на гэта, усё-ж такі ўдалося зрабіць міжнародны скаўцкі лягер у Касэлі. Адна дружына з Першага Сьцягу прысутнічала там. Лягер быў зарганізаваны чыста па-скаўцку:сярод лесу, палатак ніякіх ня было, кожная дружына рабіла сабе шалашы, гатавала ежу і г.д. У гэтай сустрэчы нашы скаўты ўпяршыню знаёмяцца з французамі, ідзе абмен скаўцкімі эмблемамі, праводзяцца супольныя сяброўскія вечары пры вогнішчы з рознымі паказамі, сьпевамі і г.д. Пасьля заканчэньня лягеру, які трываў два тыдні, усе разьяжджаюцца, уносячы з сабой прыемныя ўспаміны, новыя знаёмствы, сяброўства.

Адбылося яшчэ некалькі сустрэч. З іх трэба адзначыць прысутнасьць т.зв. "бэратараў" /кіраўнікоў палатак у летніх лягерох для дзяцей/ на

канфэрэнцыі ІМКА-ІВКА ў Гібельштадце. Якраз у нас "бэратарамі" былі амаль усе скаўты. І тут было некалькі вогнішчаў, на якіх кожная нацыянальная група паказвала сваё нацыянальнае аблічча. Беларусы і тут — у першых радох.

Так, былі вялікія цяжкасьці ў заснаваньні Беларускага скаўтынгу, недахоп кіраўнікоў, праграм і г.д., але ўсё гэта пераможана ўжо.

Калі мы ўпяршыню выступілі на міжнародную арэну, аб нас ведалі вельмі мала. Мы мусілі гучна заявіць аб нашым існаваньні на эміграцыі. Цяпер аб нас ведаюць усюды. Наш малады скаўтынг у сваім разьвіцьці дасягнуў узроўню іншых скаўтынгаў, некалькі старэйшых за яго. Але гэта зусім не дае нам права заспакоіцца, супачыць. Кожны скаўт павінен імкнуцца да таго, каб наш Беларускі скаўтынг дасягнуў яшчэ большых посьпехаў. Кожны з нас павінен паказаць прыклад у служэньні Богу і Бацькаўшчыне, каб кожны з нас стаўся змагаром за яе сьвятыя ідэалы. Кожны з нас павінен мець цьвёрдую веру ў тое, што надыйдзе час, калі наш родны край скіне з сябе путы няволі і зацьвіце ў поўнай сваёй велічы, а над яго неабсяжнымі прасторамі ўзвіецца бел-чырвона-белы Сьцяг Волі і Незалежнасьці.

Н а п а г а т о в е .

----ooo§§ooo----

В. К.

## У С П А М І Н Ы  З  Г А Р Э З Э Р С У.

Г а р э з э р с — гэта мясцовасьць у заходняй Латвіі, недалёка ад Балтыцкага мора. У Латвіі, у гэтай мясцовасьці, праводзіліся штогод курсы вышэйшых скаўцкіх кіраўнікоў. Курс знаходзіўся пад кіраўніцтвам скаўтмайстра, скончыўшага інструктарскі курс у Гільвэлі. Ад назвы мясцовасьці курс і называецца "Гарэзэрс". "Гарэзэрс" — гэта адгалінаваньне Гільвэля. Уся праграма "Гарэзэрсу" — гэта праграма Гільвэльскага курсу. Такія адгалінаваньні — філіі Гільвэлю перад вайною знаходзіліся ў Амэрыцы, Канадзе, Мадзяршчыне, Швэцыі, Эстоніі, Латвіі і іншых краінах. Праўда, не ўва ўсіх краінах гэтыя курсы былі для кіраўнікоў ваўчкоў, юнакоў і старэйшых скаўтаў. Напрыклад, у Эстоніі курсы былі толькі для юнакоў, але ў Латвіі курсы былі як для ваўчкоў, так і для юнакоў і старэйшых скаўтаў. На курс высылаюцца найбольш разьбітныя скаўцкія кіраўнікі, якія скончылі 21 год жыцьця. Увесь тэрмін навучаньня трывае 9 месяцаў і дзеліцца на 3 перыяды:

1. Пісьмовая перапіска /апрацоўка скаўцкага руху тэарэтычна/ — 3 месяцы,
2. Лягераваньне /практычнае прарабленьне тэарэтычнае часткі/ — 2 тыдні,
3. Самастойная праца ў дружыне з адсыланьнем тыднёвых рапартаў у Штаб курсу — 6 месяцаў.

Апошні такі лягер у Гарэзэрс латышы адбылі ў 1940 годзе /скончыўся пры бальшавіках/.

Апынуўшыся на эміграцыі, Латыская Скаўцкая Галоўная Кватэра атрымала дазвол ад Г.Б. на арганізаваньне такога курсу ў Нямеччыне. Мясцовасьць для курсу была выбраная ў ваколіцы Касэлю — Вальдэрода.

І вось у гэтым годзе, на запросіны латышоў, ад З.Б.С.Ч. брала ўдзел на курсе 4 чалавекі.

За 2-х тыднёвы тэрмін прабываньня на гільвэльскім курсе мы шмат чаму навучыліся практычна і, што больш важнае, /бо мы не прарабілі 1-ае часткі/ мы вельмі паглыбілі свае веды з тэарэтычнага боку ў галіне нашага скаўцкага руху. Аб жыцьці ў гільвэльскім лягеры можна проста сказаць: 15 гадзін заняткаў, гадзіна на абеды, сьняданьні і вячэры і 8 гадзін сну /15 гадзін заняткаў — гэта, каб не запалохаць, выклады і практычнае прарабленьне іх/. Каб падрабязна апісаць усё жыцьцё "Гарэзэрс"у, трэба напісаць цэлую кнігу. Я апішу адзін дзень з жыцьця курсу, г.зн.